# ULTIMATE X-MEN

ISSUE 22

АДСКІЯ ПАКУТЫ. ЧАСТКА ДРУГАЯ





СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС
#22 (2001)
ПЕРАКЛАД І
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

САЙТ: COMICSBY.BY
VK: VK.COM/COMICS_BY


MARVEL

MILLAR
KUBERT
MIKI


Пакістан:
МАМКА РОДНАЯ! Я ТОЛЬКІ ШТО ЗНІШЧЫЎ ТРЫЦЦАЦЬ ПАКІСТАНЦАЎ!


ЯНЫ ТАК РАЗЛЯТАЮЦЦА Ў РОЗНЫЯ БАКІ. СУМАТРАНЕЦ, А ЦЯПЕР АПУСЦІ ГАЛАВУ І ЗМАГАЙСЯ НА СЛАВУ БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ.





ЦУДОЎНА. ПРАЙШЛО ТОЛЬКІ ДЗЕСЯЦЬ СЯКУНД АД ПАЧАТКУ АПЕРАЦЫІ, А НАШ ГАЛОЎНЫ БАЕЦ ПРАЛАМІЎ САБЕ ЧЭРАП.
Я Ж КАЗАЎ, ШТО ТРЭБА БЫЛО ЗРАБІЦЬ ЯМУ ШЛЕМ, ЯК У ДЖАГГЕРНАЎТА. КОЛЬКІ РАЗ Я ВАМ ГЭТА ПАЎТАРАЎ?

ПРАЙШЛО ТОЛЬКІ ДЗЕСЯЦЬ СЯКУНД, А ТЫ ЎЖО НЫЕШ, РТУЦЬ. У ЧЫМ СПРАВА? ЁН ЖА ЗНІШЧЫЎ СІСТЭМУ АХОВЫ, ЯК МЫ І ПЛАНАВАЛІ.
А ЯК У ЦЯБЕ СПРАВЫ, ПАВУК-КРЫЖАВІК?
УСЁ ДОБРА.

НА ПАЎДНЁВЫМ ЗАХАДЗЕ АД ЗАВОДА З'ЯВІЎСЯ АТРАД ПАДТРЫМКІ, БРАТОК. ТЫ ІХ САМ СПЫНІШ ЦІ ДАРУЧЫШ ГЭТА МНЕ?
ПРАЦЯГВАЙ ДЗЕЙНІЧАЦЬ ЗГОДНА ПЛАНА І ДАБЯРЫСЯ ДА МЕСЦА, ДЗЕ ЗАХОЎВАЮЦЦА РАКЕТЫ, ВАНДА...
ПРАЗІМЬЯН?
НЕ НЕРВУЙСЯ, РТУЦЬ. ТВАЯ ТУРБОТА ЗАРАЗЛІВА.




У ТОЙ ЧАС, ЯК ТЫ ПАЧУЕШ МАЕ СЛОВЫ, Я ЎЖО ЗЛАДЖУ З ІМІ.
НАПЕРАД!

ВЫ ПРОСТА
НЕ ПАКІДАЕЦЕ
МНЕ
ІНШАГА
ВЫБАРА!






СПАДАРСТВА, НА БАЗУ НАПАЛА ВАЕНІЗІРАВАНАЯ ГРУПІРОЎКА МУТАНТАЎ, І ЎСЕ ВАШЫЯ КАМПУТАРЫ ЗАРАЖАНЫ САМААДНАЎЛЯЛЬНЫМІ МУТАЦЫЙНЫМІ ВІРУСАМІ.
Я НЕ РАЮ ВАМ СТАНАВІЦЦА Ў ЯГО НА ПУЦІ.














БОЖА, СПАДЗЯЮСЯ, ЯНЫ БАЧАЦЬ ГЭТА.
ХТО? ЛЮДЗІ?
НАВАТ МАГНЕТА НІКОЛІ НЕ РАБІЎ НІЧОГА ТАКОГА. НАВАТ МАГНЕТА НЕ МОГ НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ ЦЭЛУЮ ДЗЯРЖАВУ.


ЦЯПЕР ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО АТАМНАЕ АБЯЗЗБРОЙВАННЕ ПАКІСТАНА – ЗУСІМ НЕ АДЗІНАРАЗОВАЯ АКЦЫЯ.
У ГЭТЫ ЧАС МАЕ БРАТЫ-МУТАНТЫ ЗНІШЧАЮЦЬ ЯДЗЕРНЫ АРСЕНАЛ У ІНДЫІ. АБЕДЗЬВЕ ГЭТЫЯ КРАІНЫ, ШТО ВАЛОДАЛІ ТАКОЙ КАШМАРНАЙ СІЛАЙ, ПРАЯВІЛІ СЯБЕ БЕЗАДКАЗНА.

ДЗІЎНА, АЛЕ МНОГІЯ АДНЕСЛІСЯ ДА АБЕЗЗБРОЙВАННЯ НАШЫМ СПОСАБАМ З АДАБРЭННЕМ. АДНАК ВЫМУШАНЫ ВАС ЗАСМУЦІЦЬ – МЫ КІРУЕМСЯ БОЛЬШ ЭГАІСТЫЧНЫМІ МАТЫВАМІ, ЧЫМ ГЭТАГА ЖАДАЛІ Б ЛЮДЗІ
ВАШ СВЕТ ХУТКА БУДЗЕ НАЛЕЖЫЦЬ НАМ.

ДЗЕЛЯ БОГА, БУРБАЛКА, ТЫ МОЖАШ ЗДЫМАЦЬ ХУТЧЭЙ, А НЕ КОЎЗАЦЦА ЯК СОННАЯ МУХА?
ТЫ ЗАНАДТА ХУТКА ГАВОРЫШ. Я ХАЧУ ЗАПАВОЛІЦЬ ТРОХІ ЗДЫМКУ, КАБ ЛЮДЗІ ЗМАГЛІ ЗРАЗУМЕЦЬ ТВАЁ ПАСЛАННЕ.


СЛУХАЙ, ЗАПХНІСЯ. ПРОСТА АДМАТАЙ ПЛЁНКУ, І ПАЧНЕМ УСЁ СПАЧАТКУ.
ІДЫЁТЫ.
НАМІ КІРУЮЦЬ ІДЫЁТЫ.
Я НЕ ЧУЎ, КАБ МАГНЕТА ЗАПІСВАЎ ПРАМОВЫ ДЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ НА ТЭЛЕБАЧАННІ, А ГЭТЫ ПРЫТЫРАК РТУЦЬ НЕ МОЖА ГАВАРЫЦЬ ПЕРАД КАМЕРАЙ, НЕ ЧЫТАЮЧЫ ПРЫ ГЭТЫМ ПА ПАПЕРЦЫ.


ВЕДАЕШ, МНЕ ДА ГЭТУЛЬ НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ПРЫТРЫМЛІВАЕМСЯ ГЭТАЙ ГЛУПАЙ ДАМОВЫ АБ МІРЫ, ЯКУЮ ЯНЫ ПРЫМУСІЛІ НАС ПАДПІСАЦЬ.


ЧАМУ НАС ПАВІННА ХВАЛЯВАЦЬ НЕПАПУЛЯРНАСЦЬ БОМБ У СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ. МЫ ЖА ТЭРАРЫСТЫ. НЯЎЖО ГЭТА НЕ АЗНАЧАЕ, ШТО МЫ ПАВІННЫ ЧАС АД ЧАСУ ПАДРЫВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ?


ПРАБЛЕМА ВАНДЫ І П'ЕТРА Ў ТЫМ, ШТО ПАСЛЯ ГЭТЫХ МАЛЕНЬКІХ МІСІЙ ІХ ТВАРЫ ПАТРАПІЛІ НА ВОКЛАДКІ ЧАСОПІСАЎ. ЦЯПЕР ЯНЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ АСАЛОДУ АД АРТЫКУЛАЎ, ДЗЕ ІХ ХВАЛЯЦЬ.
І ПОТЫМ ЯНЫ ЗАНАДТА ЧАСТА СУСТРАКАЮЦЦА З ЧАРЛЬЗАМ ХАЎЕРАМ І НЕ ВЕЛЬМІ-ТА ПРЫСЛУХОЎВАЮЦЦА ДА ГОЛАСА СВАЁЙ КРЫВІ, КАЛІ ТЫ РАЗУМЕЕШ, ПРА ШТО Я.


Millar light
Я ДУМАЮ, МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ БОЛЬШ ЛАЯЛЬНЫМІ ДА РАБЯТ, ЯКІЯ ВЫЦЯГНУЛІ НАЗ З ЛАБАРАТОРЫЙ, ПРАЗІМЬЯН. КАЛІ Б НЕ БРАТЭРСТВА, МЯНЕ ДА ГЭТУЛЬ ПРЫМУШАЛІ Б ВЫПАЛЬВАЦЬ ПА ДЗВЕСЦІ СІГАРЭТ НА ДЗЕНЬ.
ТАК, АЛЕ НАВОШТА ЯНЫ НАС ВЫЦЯГНУЛІ, САЛУКІ? ДЛЯ АНТЫГЛАБАЛІСТЫЧНЫХ АПЕРАЦЫЙ? **ДЛЯ ДРОБНАГА ХУЛІГАНСТВА**?
I EAT MEAT
MODERN MONKEY


Я ДАЛУЧЫЎСЯ ДА БРАТЭРСТВА НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ СТАЦЬ БАРАЦЬБІТАМ ЗА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА. Я Б ЛЕПШ УСТУПІЎ У ШЭРАГІ ЛЮДЗЕЙ ІКС.
ЖЫВЁЛІНЫ ЭВАЛЮЦЫЯНІРУЮЦЬ, СУПОЛКІ МУТАНТАЎ РАЗРАСТАЮЦЦА. І Я ЛІЧУ, ПРЫЙШОЎ ЧАС АТРЫМАЦЬ ТОЕ, ШТО НАМ НАЛЕЖЫЦЬ.


ПРАЗІМЬЯН МАЕ РАЦЫЮ, МЫ КОЛЬКАСНА ПЕРАВЫШАЕМ СТАРЫХ ЛЮДЗЕЙ БУДУЧЫНІ. ТРЫ ДА АДНАГО Ў НАШУ КАРЫСЦЬ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ШЭЛЬМА І ДЖАГЕРНАЎТ ЗЫШЛІ РАЗАМ З ЖАБАЙ І АСТАТНІМІ.
I EAT


ТАК, АД СТАРОЙ ЗГРАІ ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ШАСЦЁРА, І АДЗІН З ІХ – ГЭТЫ ТОЎСТЫ НЕАХАЙНІК БУРБАЛКА.
ЯК МОЖНА НАЗЫВАЦЬ ЛІДЭРАМ НЕПАВАРАЦЬНЯ, ЯКІ ВАЖЫЦЬ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ТОН І ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ СЯДЗІЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ, ПРЫТВАРАЮЧЫСЯ, ШТО ЁН – ГНУТКАЯ ФОТАМАДЭЛЬ?


ГЭТА ЎСЁ ЧАСОВА, КЭТЛІН.
ЎСЁ ЧАСОВА.


Інстытут Хаўера для таленавітых падлеткаў:


ЯК ГЭТА АТРЫМАЛАСЯ, ПРАФЕСАР? СКАНЕРЫ ЗАФІКСАВАЛІ ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ НЕЗВЫЧАЙНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ МОЗГА?
АБСАЛЮТНА НІЧОГА, ДЖЫНА. ЧАТЫРЫ ТЫДНЯ БЕЗПЕРАПЫННЫХ ДАСЛЕДВАННЯЎ. І ЗГОДНА РЭЗУЛЬТАТАМ, ТЫ Ў ВЫДАТНЫМ ФІЗІЧНЫМ СТАНЕ.
А ШТО НАКОНТ ПСІХІКІ?


ПСІХІЧНА ТЫ ПАДУШАНА. АЛЕ ГЭТА ЯК РАЗ ЗРАЗУМЕЛА ПАСЛЯ ТВАЙГО КОЛІШНЯГА РЭЦЫДЫВУ, ЗВЯЗАНАГА З ВЯРТАННЕМ ГАЛЮЦЫНАЦЫЙ.


Я ВЕДАЮ, ТЫ БАІШСЯ, ШТО ЗНОЎ ПОЎНІШСЯ ШАЛЕНСТВАМ, АЛЕ ПАВЕР МНЕ, ДЖЫНА, ГЭТЫЯ ВІДОВІШЧА, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, БОЛЬШ НЕ ВЕРНУЦЦА.
ЛІЧУ, ТВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ ЎДАСКАНАЛЯЮЦЦА З ЦЯГАМ ТАГО, ЯК РАЗВІВАЕЦЦА ТВОЙ РОЗУМ. АЛЕ МЫ МОЖАМ РАЗАМ ДАСЛЕДВАЦЬ ГЭТУЮ ПРАБЛЕМУ І НАВАТ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ДОЗУ АМІТРЫПТАЛІНА, КАЛІ ГЭТА СПАТРЭБІЦЦА.


Я ЗНОЎ УБАЧЫЛА ФЕНІКСА. І ЎСЁ ВЯРНУЛАСЯ, ПРАФЕСАР... БАЛЬНІЧНЫ ПАХ. Я АДНАЧАСОВА ЧУЮ ЎСЕ ДУМКІ ТЫХ, ХТО ПОБАЧ, НЕ МАГУ ПРАДБАЧЫЦЬ БУДУЧЫЯ...
ЧАМУ МНЕ ТАК НЕ ШАНЦУЕ? Я ПАЧЫНАЮ СЫХОДЗІЦЬ З РОЗУМУ ЯК РАЗ ТАДЫ, КАЛІ ЗНАЙШЛА, НАРЭШЦЕ, ГОДНАГА ХЛОПЦА.


ДЖЫНА, З ТАБОЙ УСЁ Ў ПАРАДКУ. КАЛІ АБ ІХ І ВАРТА ХВАЛЯВАЦЦА, ДЫК ГЭТА АБ БЕДНЫМ ГЕНРЫ МАККОІ.
ЁН БЛУКАЕ ПА ШКОЛЕ НІБЫ ПРЫВІД З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК РАЗЫШОЎСЯ З АРАРО. І Я ВЕЛЬМІ ТУРБУЮСЯ ЗА ЯГО.


УСЁ ГЭТА, ДЫ ЯШЧЭ ІСК, З ЯКІМ ЗВЯРНУЛІСЯ СУПРАЦЬ НАС БАЦЬКІ ЧАЛАВЕКА-ІЛЬДА, ПРЫВЯЛО ГЕНРЫ ДА СУР'ЁЗНАЙ ДЫПРЭСІІ.
МАГЧЫМА, ТАБЕ ВАРТА АДЦЯГНУЦЬ ЯГО ЎВАГУ НА ШТО-НЕБУДЗЬ, ЯК ТЫ ЗРАБІЛА ГЭТА З КІЦІ. І МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ТАБЕ ТРЭБА БОЛЬШ ПРЫГЛЯДАЦЬ ЗА РАСАМАХАЙ...


ШТО?
ЁН ПАПРАСІЎ МЯНЕ СТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО БУЯНЫ НОРАЎ. І Я ВЕДАЮ, ШТО ЁН ВЕЛЬМІ НЕГАТЫЎНА ЎСПРЫМАЕ ТВАЕ ЗНОСІНЫ СА СКОТАМ.


РАСАМАХА – САМЫ НЕБЯСПЕЧНЫ МУТАНТ У СВЕЦЕ, ДЖЫНА.
ГУЛЯЦЬ З ІМ У ТАКІЯ ГУЛЬНІ – ГЛУПСТВА.


Дэманстратыўны зал:


ТАБЕ ПАДАБАЕЦЦА ІМЯ ПРЫВІДНАЯ КОШКА, ЦЫКЛОП?
ШТО?


Я СПРАБАВАЛА ПРЫДУМАЦЬ САБЕ КРУТОЕ СУПЕРГЕРОЙСКАЕ ІМЯ. НАКШТАЛТ ТЫХ, ШТО Ў ВАС, АЛЕ ВЕЛЬМІ ЦЯЖКА ПАДАБРАЦЬ НЕШТА ЦІКАВАЕ, НЕПАДОБНАЕ НА ІМЁНЫ ГЕРОЯЎ З ГЛУБЫХ МУЛЬЦІКАЎ.
ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, ІМЯ ПРЫВІДНАЯ КОШКА ДАСТАТКОВА АДЛЮСТРОЎВАЕ МАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ ЦІ МНЕ ВАРТА ПРЫДУМАЦЬ САБЕ ІНШАЕ ІМЯ?


Я ЛІЧУ, ТАБЕ ЛЕПШ ЗРАБІЦЬ ХАТНЮЮ РАБОТУ ПА ФІЗІКЕ.
АЛЕ ГЭТА Ж ДА СМЕРЦІ СУМНА, СКОТ. А ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ? РЫХТУЕШСЯ ДА ЎРОКА ПА ГЕАГРАФІІ?


НЕ. МЫ З КАЛОСАМ НАКІРОЎВАЕМСЯ ЗАЎТРА РАНІЦАЙ З МІСІЯЙ НА ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ. Я ХАЧУ ЎСПОМНІЦЬ ТАПАГРАФІЮ МЯСЦОВАСЦІ.
ДЗІКАЯ ЗЯМЛЯ? ТАМ, ДЗЕ ЖЫЎ МАГНЕТА, ТАК? Я ДУМАЛА, ШТО ЦЯПЕР ГЭТА ЗАБАРОНЕНАЯ ЗОНА. ПА ТЭЛЕВІЗАРУ КАЗАЛІ, ШТО ТУДЫ НЕ ДАЗВОЛЕНЫ ЎЕЗД І ВЫЕЗД.


ТАК. НА ПРАЦЯГУ ШАСЦІ МЕСЯЦАЎ ВАЕННЫЯ ПРАЧЭСВАЛІ ТЭРЫТОРЫЮ Ў ПОШУКАХ РОЗНЫХ ВЫНАХОДНІЦТВАЎ, ЯКІЯ ЯНЫ МАГЛІ Б ПОТЫМ ЗАПАТЭНТАВАЦЬ.
АЛЕ ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ НАЗАД ПЕНТАГОН ПАВЕДАМІЎ, ШТО РАДЫЁСУВЯЗЬ З ІМІ СТРАЧАНА. І ПРАФЕСАР ПРАПАНАВАЎ НАКІРАВАЦЬ ТУДЫ ЛЮДЗЕЙ ІКС, КАБ РАЗАБРАЦЦА ЎСІТУАЦЫІ.


ЦУДОЎНА. ЯК ЛІЧЫШ, ЁН ДАЗВОЛІЦЬ МНЕ ПАЕХАЦЬ З ВАМІ?
НІЯКІХ ШАНСАЎ.


НЯ МОЖА БЫЦЬ. ТЫ Ж БАЧЫШ, ЯК ДОБРА Я НАВУЧЫЛАСЯ КІРАВАЦЬ СВАЁЙ СІЛАЙ. СЁННЯ Я АПЯРЭДЗІЛА ВАС УСІХ У НЕБЯСПЕЧНАЙ ЗОНЕ.
ГЭТА НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ. ТВАЯ МАЦІ ПРАСІЛА НАС НАВУЧЫЦЬ ЦЯБЕ КІРАВАЦЬ СВАЁЙ СІЛАЙ, АЛЕ ТАБЕ ЗАБАРОНЕНА ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У НАШЫХ НЕБЯСПЕЧНЫХ МІСІЯХ.


ВЫ БАЯЦЕСЯ, ШТО СА МНОЙ ШТО-НЕБУДЗЬ ЗДАРЫЦЦА, І Я ТАК САМА, ЯК ЧАЛАВЕК-ЛЁД, ПАДАМ НА ВАС У СУД?


МАБЫЦЬ, ПРОСТА СКОТ БАІЦЦА, ШТО НЕ ЗМОЖА ЎТРЫМАЦЦА, КАБ НЕ РАСПУСКАЦЬ РУКІ, КІЦІ... ЁН ЖА Ў НАС ЦЯПЕР ГАЛОЎНЫ ЖАНОЧЫ ЛІСЛІВЕЦ.
ООЙ.
У МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ Ў ТРЫСТА РАЗОЎ ГОРШ, ЧЫМ Я ДУМАЛА.

ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ, РАСАМАХА? Я ДУМАЎ, ШТО ВЫ З АРАРО ЗАРАЗ У ФІЛАДЭЛЬФІІ, ВЫРАШАЕЦА ПРАБЛЕМУ З ЗАКЛАДНІКАМІ.
НУ, ПЛАНЫ ЗМЯНІЛІСЯ.

НА МАЮ ДУМКУ, АД ЦЯБЕ ПАХНЕ АЛКАГОЛЕМ. РАЮ ТАБЕ ВЯРНУЦЦА Ў СВОЙ ПАКОЙ І ПРАСПАЦЦА, ПАКУЛЬ ЦЯБЕ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ ПРАФЕСАР.

ТЫ МНЕ ЯШЧЭ БУДЗЕШ ЗАГАДВАЦЬ, САМЕРС?

ОЙ, ДЫ ІДЗІ ТЫ КУДЫ ХОЧАШ...
ДУМАЕШ, ШТО ТЫ ЛЕПШ МЯНЕ, ТАК? ЛІЧЫШ СЯБЕ КРУТЫМ ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ЗАКРУЦІЎ РАМАН З МАЁЙ БЫЛОЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ?
ГЭЙ, РАБЯТЫ. Я ДУМАЮ, ВАМ ЛЕПШ РАЗЫСЦІСЯ ПА-ДОБРАМУ.

НЕ ГУЛЯЙСЯ З ЛЁСАМ, РАСАМАХА.
А ШТО ТАКОЕ? ТЫ ВЫСТРАЛІШ У МЯНЕ СВАІМІ АПТЫЧНЫМІ ПРАМЕНЯМІ? ДЫ ТВАЕ ВАНТРОБЫ СЦЯКУЦЬ НА ДОЛ РАНЕЙ, ЧЫМ ТЫ ДАЦЯГНЕШСЯ ДА СВАІХ АКУЛЯРАЎ, БРАТОК.

МАБЫЦЬ, ТЫ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ, АЛЕ Ў ДЖЫНЫ ПАЧАЛІСЯ ГАЛАЎНЫЯ БОЛІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК СТАЛА СУСТРАКАЦЦА З ТАБОЙ, РАМЭО.
ЛІЧЫШ, ГЭТА СУПАДЗЕННЕ ЦІ ЁЙ ПРОСТА НЕ ХАПАЕ САПРАЎДНАГА КАНАДСКАГА ХЛОПЦА?

НЕ ЗЛУЙ МЯНЕ, ПРЫЯЦЕЛЬ.

ЁЙ СПАДАБАЛАСЯ ТОЕ, ЧЫМ МЫ ЗАЙМАЛІСЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ, СКОТ. ДУМАЮ, НАМ АБОДВУМ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО РАНА ЦІ ПОЗНА ЯНА ВЕРНЕЦЦА ДА МЯНЕ.


КІЦІ, ІДЗІ ДА ПРАФЕСАРА І СКАЖЫ, ШТО МЯНЕ І РАСАМАХУ ТРЭБА ІЗАЛІРАВАЦЬ РАНЕЙ ЧЫМ МЫ РАЗНЕСЛІ ГЭТАЕ МЕСЦА.
ШТО?


URK!!


ДОБРА, Я ІДУ! Я ІДУ!


УДАР... ЗНІЗУ...
Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ВЕДАЎ... КАЛІ БЫ НЕ ДЖЫНІ, Я Б ДАЎ ВОЛЮ КІПЦЮРАМ, ПРЫГАЖУН.






Я ДОЎГА ЧАКАЎ ГЭТАГА МОМАНТУ, САМАЎПЭЎНЕНЫ НАХАБНІК!

Я ТАК САМА!!!



БОЖА МОЙ! ДЗЕ ПРАФЕСАР? ЦЫКЛОП І РАСАМАХА ЗАБІВАЮЦЬ АДЗІН АДНАГО Ў ДЭМАНСТРАЦЫЙНЫМ ЗАЛЕ!
ШТО?

ДУРНАЯ РЭПУТАЦЫЯ І ЗАМАШКІ КЛІНТА ІСТВУДА МАБЫЦЬ І ЗДОЛЬНЫЯ НАПУЖАЦЬ КАГОСЬЦІ, АЛЕ ТОЛЬКІ НЕ МЯНЕ, РАСАМАХА.
Я ЦЯБЕ ПАПЯРЭДЖВАЮ... УБЯРЫ РУКІ АД МАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЫ, ІНАЧ МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПРАВЕРЫЦЬ, НАКОЛЬКІ ДОБРАЯ ТВАЯ ЗДОЛЬНАСЦЬ ВЯРТАННЯ ДА ЖЫЦЦЯ.

ТЫ ШТО, ГЛУХІ? Я ДА ЦЯБЕ ЗВЯРТАЮСЯ.




СКОТ!
THUD!


ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?
СПРАБУЮ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ, СЭР.
І ТАМУ НАПАДА-ЕШ ПЕРШЫМ?


НАВАТ КАЛІ ЁН ПАКРЫЎДЗІЎ ТВАЮ ДЗЯЎЧЫНУ, МІСТАР САМЕРС, ТУТ НЕ ДЗІКІ ЗА-ХАД. І Я НЕ ЖАДАЮ ТРЫВАЦЬ ТВАЕ ДЗІЦЯЧЫЯ ВЫБЛІСКІ ЛЮТАСЦІ, А ШТО КАЛІ Б ЁН ЗАБІЎ ЦЯБЕ?


Я НЕ БАЮСЯ РАСАМАХІ, СЭР.
І ДАРЭМНА, СКОТ. БО СЁННЯ НОЧЧУ Я ЗАКАНЧ- ВАЮ КУРС ПСІХІЧНАЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ МАГНЕТА. КАЛІ Б Я ЎЕХАЎ КРЫХУ РАНЕЙ, ТЫ ЛЯЖАЎ БЫ ЗАРАЗ НА ПАДЛОГЕ, ПАРЭЗАНЫ НА КАВАЛКІ.


Я ЗМЯШЧУ ВАС АБОДВУХ У ПСІХІЧНУЮ ІЗАЛЯЦЫЮ НА ГЭТУЮ НОЧ, КАБ ВЫ МАГЛІ ПАДУМАЦЬ АБ ТЫМ, ШТО ЗРАБІЛІ.


Я ВЕЛЬМІ РАСЧАРАВАЎСЯ Ў ТАБЕ, СКОТ.
НЕ ЧАКАЎ АД ЦЯБЕ ТАКОГА.


ПРАБАЧЦЕ, СЭР.
МЫ ВЫРАШЫМ, ШТО НАМ РАБІЦЬ, ЗАЎТРА РАНІЦАЙ.


ПРАФЕСАР! ПРАФЕСАР! З ДЖЫНАЙ ШТОСЬЦІ ЗДАРЫЛАСЯ...


ШТО?


ВІДАЦЬ, У ЯЕ ЗНОЎ ПРЫСТУП.
Працяг будзе...

# У 2017

# НА COMICSBY.BY ЗБОРНІК СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС НУМАР 2




## НАСТУПНЫЯ НУМАРЫ НА COMICSBY.BY







